# Уроки английского

*Не стоит понапрасну трудиться, пытаясь в заглавии отыскать суть предмета. Оно дано лишь потому, что герой этого интервью преподает в школе английский. Разговор же у нас о том, чем учитель занимается во внешкольное время. А возглавляет он городскую организацию социал-демократов, которая, хотя и не существует де-юре после объединения с Партией народного согласия, но фактически живет и действует. (Об этой, а также и о других внутрипартийных реорганизациях и преобразованиях мне был прочитан краткий курс).*

*Что еще можно сказать о моем герое? Ему 26. Вырос в семье военного моряка и врача. Закончил химико-технологический техникум и пединститут. Увлекался научной фантастикой (о ее роли в судьбе в конце материала). Обладает умеренным запасом менторства и безапелляционности, что, впрочем, с лихвой компенсируется чувством юмора и снисходительной самокритичностью.*

*Ниже — то, что удалось узнать у Владимира Лапцевича за 20 минут разговора на улице в дождливую погоду.*

**— Как произошел ваш приход в оппозицию? И принципиальна ли приверженность социал-демократии?**

— Если в жизнь будут проводиться те принципы, на которых строятся мои убеждения, то смысл нахождения в оппозиции исчезнет. Я шел не в оппозицию, а искал людей, у которых взгляды схожи с моими.

Это началось после окончания техникума. Тогда вовсю разворачивалась перестройка и я, осмыслив происходящее вокруг, решил, что самый правильный путь для нашей страны —социал-реформизм, т.е. тот путь, который предлагают социал-демократические партии. Одна из первых таких партий появилась в нашем городе и называлась Социал-демократическая партия "Город Могилев". Мои взгляды к тому времени уже сформировались. Летом 91-го года по радио передали, что в Могилеве зарегистрирована социал-демократическая партия. Я начал ее искать. К ноябрю нашел.

**— И возглавили?**

— Нет. Стал техническим секретарем. Но был разочарован малоэффективностью внутрипартийной работы, в связи с чем временно приостановил свое членство в партии. Через несколько лет меня снова туда потянуло. И вот с января 96-го возглавляю городскую организацию.

**— Слыхала, что вам не раз приходилось вступать в малоприятные контакты с правоохранительными органами...**

— Да, бывало... В частности, во время распространения "Декларации прав человека", что я считал необходимым делать. Ее подписало и ратифицировало наше государство, однако почему-то это упорно замалчивается. Я не признаю себя виновным в том, что мне инкриминировали, ибо работает не Закон, а какие-то декреты, что само по себе уже незаконно... Впоследствии история все расставит на свои места и покажет, кто кем был на самом деле.

**— Как известно, учителя относятся к категории наиболее послушных властям граждан. Не создают ли ваши убеждения проблем с руководством?**

— В школе я всегда стараюсь выступать на собраниях, стремлюсь передать свои убеждения тем, с кем общаюсь, хотя понимание нахожу не всегда и иллюзиями на этот счет себя не тешу. Свои служебные обязанности выполняю, на мой взгляд, в полном объеме. Вероятно, такого же мнения придерживается и школьное начальство. Так что, несмотря на то, что в школу периодически приходят бумаги из суда, проблему выбора передо мной еще никто не ставил.

**— Есть ли в вашей партии случайные люди?**

— Думаю, что если и есть, то очень немного. В сегодняшней обстановке принадлежность к оппозиционной партии — большое неудобство.

**— Ваше отношение к баррикадам?**

— Смотря к каким баррикадам. Как известно, и социал-демократия, и коммунизм выросли из марксизма. Самое главное отличие между ними в том, что коммунисты предлагают переделать мир с помощью революций, а социал-демократы — проведением реформ. Но если уж произойдет народная революция — а она будет стихийной — то социал-демократы, разумеется, будут в гуще событий. А призыв на баррикады — это крайняя мера, на которую мы пойдем только тогда, когда почувствуем, что выбора нет.

**— Давайте на миг предположим, что к власти пришли демократы. Какие изменения произошли бы в вашей жизни?**

— После победы на выборах — работа в органах власти, ибо только там можно применить свои знания и убеждения.

**— Всегда ли вы верите в то, что делаете?**

— Конечно. Мои убеждения не меняются уже столько лет, более того — мешают мне жить.

**— Какие качества в себе вы любите?**

— Я стараюсь не делать плохого людям. А если уж не могу принести добро, то стараюсь не навредить.

**— А от чего хотели бы избавиться?**

— Наверное, как говорят мои родные и знакомые, я действительно слишком твердолобый, и не только в том, что касается убеждений. Зачастую не проявляю гибкости там, где это нужно. Что еще? Не часто хвалю человека, хотя может быть и стоило бы. Все это говорит о том, что как лидеру мне еще предстоит расти.

**— А верите ли вы в то, что народ можно в чем-то убедить? Или работаете только ради самоудовлетворения?**

— Уверенность в том, что наш народ можно убедить, есть. На 50%. Когда сталкиваешься с конкретными людьми, доводишь им свою точку зрения, а они ничего не воспринимают, то это огорчает, конечно. А с другой стороны, думаешь: я сделал все, что мог, и что-то у них в голове должно остаться. В конце концов, песчинка к песчинке сложится во что-то весомое. Если будет свобода выбора, свобода убеждений — это обязательно проявится.

**— А если нет?**

— Сейчас самое главное — не теряться и не разочаровываться, хотя это и трудно. Еще в прошлом веке основоположник социал-реформизма Эдуард Бернштейн высказал такую мысль: "Цель — ничто, а движение — все". Поэтому, несмотря на то, что на сегодняшний день получается не так много, нужно все равно двигаться, а не стоять на месте. Ведь даже когда цель будет достигнута, это не значит, что на ней надо будет остановиться и праздновать победу.

*P.S. Вот и пришел момент раскрыть "научно-фантастическую" тайну. На самом деле приобщение Владимира к оппозиции произошло гораздо раньше перестроечных лет. Когда ему было 13-14, он прочитал рассказ о том, как в одном обществе придумали лекарство, под действием которого человек начинает знать ответы на все вопросы. И еще там была масса любопытных нюансов. В итоге все это напомнило ему то общество, в котором он сам и жил. А прочитав послесловие, обнаружил, что речь-то, оказывается, идет о... фашистском государстве. Свой вывод не замедлил сообщить родителям. В общем, об оппозиции, вплоть до начала 90-х, пришлось забыть...*

*Вела конспект беседы-урока*
*Саша ГЖЕЛЬСКАЯ.*

# Па слядах Рэрыха

## З нагоды дзвюх магілёўскіх выстаў

Наш горад гэтай вясной упадабалі рэрыхаўцы: у красавіку была выстава "духоўна-мадэрновага" жывапісу Ю.Маскаленкі з Гомеля, а ў траўні ў карціннай галерэі дэманстраваліся работы самога Мікалая Рэрыха. Для магілёўцаў надарыўся выпадак параўнаць творчасць мэтра і яго паслядоўніка, якім лічыць сябе гомельскі мастак.

Асоба Рэрыха — арыгінальная з'ява ў культуры першай паловы XX ст., і да сёння выклікае цікавасць у свеце. Але найбольш у краінах, што знаходзяцца ў полі прыцягнення рускай культуры. Яно і зразумела — Рэрых не толькі рускі мастак, але і аўтар своеасаблівага "духоўна-рэлігійнага" вучэння, дзякуючы якому ён мае столькі прыхільнікаў і падражальнікаў. Калі каротка акрэсліць ягоную сутнасць, то гэта адзін з постхрысціянскіх праектаў: спроба на падмурках будызму і расейскага праваслаўя з дамешкам уласных рэфлексій і містычных адкрыццяў стварыць універсальнае, касмічнае, пазагістарычнае вучэнне. Гэта ўласна і не рэлігія ў традыцыйным разуменні, а шэраг тэкстаў-маналогаў, міфаў і настаўленняў, якія чалавеку непадрыхтаванаму цяжка зразумець, а тым больш — прыкласці да рэальнага жыцця.

"Агні-ёга", напрыклад, уяўляе сабой нейкае задумленнае мармытанне, бясконцую повязь метафарычных вобразаў, знаёмых і незнаёмых слоў, маналог, так бы мовіць, аб усім і ні аб чым. Гэтае "пераліванне інфармацыі" з адной "тонкай сфэры" ў другую ніяк не закранае звычайнага чалавека, які застаецца на сваёй "фізічнай зямлі" і няўцямна лыпае вачыма — "навошта гарадзіць той агарод?"

Больш зразумела і набліжана да свайго часу публіцыстычная спадчына Рэрыха, дзе ён выступае абаронцам культуры і рамантычным прыхільнікам расейскага месіянства. "Сусветная місія Расеі", "Масква — трэці Рым", мара аб "духоўнай звышдзяржаве" — тыловыя месцы ягоных артыкулаў. На шчасце, ён не быў практыкам-будаўніком той дзяржавы, а толькі ідэалістам-летуценнікам, апалагетам "касмічнай імпэрыі духу". Тым не менш, адзін з нямногіх за межамі СССР, Рэрых горача падтрымліваў новую Расею. Ды вось парадокс (ці мо заканамернасць?) —чалавек, які прэтэндаваў на лаўры прарока-ўсёзнаўцы і ў змрочныя 30-я гады турбаваўся пра лёс сусветных культурных каштоўнасцяў, "не заўважаў", як па-варварску нішчыцца культура і жывыя людзі — яе носьбіты на радзіме, ў "дзяржаве святла і справядлівасці". Але такія "недарэчнасці", якія яшчэ 10 год назад ставіліся камуністамі яму ў заслугу, сёння проста не заўважаюцца прыхільнікамі "гімалайскага мудраца". Галоўны націск робіцца на яго "касмічныя настаўленні" і лаяльнасць да панславянства і праваслаўя.

На выставе Ю.Маскаленкі халаднаваты, гладкі жывапіс, з праваслаўна-будысцкай эклектыкай і сюррэалістычнымі атрыбутамі грунтоўна аздабляўся цытатамі з "Агні-ёгі". Між іншым, з іх я даведаўся, што Хрыстос і Будда былі ад адной маці, праўда, пакуль — духоўнай (што гэта?). Вось такім чынам "родныя браты" нарэшце праз столькі год злучыліся (інтэграваліся) дзякуючы Маскаленку і Рэрыху. Так і хочацца сказаць: "Людзі! Мы ж усе браты, сыны аднаго бацькі Адама і маткі Евы! Чаму ж вы, нашы амерыканскія ці нямецкія сваякі, не хочаце адваліць кавалак свайму брату-беларусу? Заінтэгруйце нас сваёй душой, а лепш — целам! Падкіньце якіх харчоў, аўтамабіляў і кампутараў, бо наш расейскі брат карміць нас ужо не хоча, сам галадае!"

На той выставе, дарэчы, шмат новага маглі адкрыць для сябе і хрысціяне, і атэісты, і нават рэрыхаўцы. Напрыклад, што мастак Сальвадор Далі, як і Алена Рэрых, і св. Сергій, і мітрапаліт Філарэт — важная пэрсона, якая заслугоўвае права быць намаляванай Ю.Маскаленкам. Ведаў бы Мікалай Канстанцінавіч, што яго вучань загледзеўся на такі нялюбы "Загніваючы і бездухоўны" Захад, тым больш на такога "вычварэнца" як Далі —адлучыў бы ад "высокай расейскай культуры"...

На выставе самога Рэрыха такой "д'ябальшчыны" і "сюру", канешне, не было. Арганізатары пастараліся стварыць атмасферу Гімалаяў: строгія абрысы гор, безжыццёвыя снегавыя прасторы, аднастайныя краявіды, зззяючыя амаль касмічнымі колерамі. Кароткія сымбалічныя тэксты-тлумачэнні. Уражанне высокай стратасфэрнай цішыні, адарванасці ад цывілізацыі і свету, вечная нерухомасць і спакой. Магчыма, у такой атмасфэры карысна пабываць пасля гарадскога тлуму, але жыць у ёй немагчыма. Асабліва беларусу, які любіць сваё балота, лес, гарод ці хаця б хрушчоўку з сумешчаным санвузлом. Зразумела, што я не такі ідэаліст-рамантык як Рэрых, таму і шукаю больш жывых і непасрэдных праяваў у мастацтве. Але я аддаю належнае яму як самабытнаму творцу ўласнага жыцця і фантастычна-рэальнага свету.

Аднак цяжка згадзіцца з тымі паслядоўнікамі, хто спрабуе "кананізаваць" яго ў якасьці "прадвесніка новай эры", "касмічнага герарха" і г.д. На маю думку, ён быў сынам свайго трагічнага часу, які знайшоў арыгінальны выхад на пераломе эпох: сыйшоў у горы са сваім мастацка-філасоўскім скарбам, схаваўся там ад катаклізмаў цывілізацыі. Не забыўся, праўда, і пра кар'еру ў гэтай самай цывілізацыі, прычым фінансавы поспех спаткаў ягоную працу на Захадзе, у ЗША, а ідэалагічны — на Усходзе, у Індыі і СССР. Так што, як бачым, М.Рэрых быў не толькі ідэалістам, але і мэтанакіраваным арганізатарам, дыпламатам, гібкім палітыкам, прагматычным грамадскім дзеячом. Адным словам — жывым чалавекам, грэшным і зямным, не пазбаўленым амбіцый і памылак. Яго ж вучэнне, па-мойму, застанецца аб'ектам цікаўнасці пэўнага кола інтэлектуалаў з містычнай расейскай ці антызаходняй арыентацыяй. Вядома, за апошнія 200 год у Беларусі такая арыентацыя дала свой плён, таму рэрыхаўцы яшчэ доўга будуць аднойной з асаблівасцяў нашага культурнага ландшафту.

**Васіль АЎРАМЕНКА.**

ЖЫЦЦЁ ПА ДЭКРЭТУ

# Новае ў судовай практыцы

У аўторак суддзя Кастрычніцкага суда прыняў ад міліцыі да слухання справу на старшыню камітэта "Дзеці Чарнобыля" Наталлю Рославу за нібыта арганізацыю несанкцыянаванага шэсця ў дзень гадавіны чарнобыльскага выбуху, які, дарэчы, з'яўляецца днём афіцыйнай жалобы ў Беларусі. На той дзень Н.Рослава зусім не была ў горадзе і нават у краіне. Але справа нават не ў гэтым. Справа ў тым, што падчас слухання суддзя В.Мазураў прымяніў новы метад разгляду адміністратыўных спраў. А менавіта: суддзя вырашыў разгледзець справу ў адзіноцтве, назваўшы гэтую непрацэсуальную калізію ледзь не прыватнай гутаркай. Хаця сп. Рослава атрымала павестку, а разам з ёй на суд з'явіліся сведкі і грамадскі абаронца. Суддзя выставіў іх за дзверы і нават выклікаў у суд для затрымання абаронцы нарад міліцыянтаў у складзе двух сержантаў. З арыштам, праўда, абышлося. Суддзя так і не даў тлумачэння, што ж гэта быў за разгляд справы, калі нават у сумнай памяці 37-м годзе "суды" засядалі ў выглядзе "троек"... А можа ён і мае рацыю, бо навошта фармальнасці, калі дэкрэт - гэта такая рэч, якая спіша старанным яго выканаўцам іх "рвение". Ну,а яе вялікасць ІСЦІНА тут, канешне, не пры чым.

Пасяджэнне суда скончылася тым, што сп. Рослава перадала суддзі Заяву (друкуецца ніжэй) і была адпушчана да высвятлення "открывшихся в ходе заседания новых обстоятельств".

# ЗАЯВЛЕНИЕ

В связи с решением суда принять к рассмотрению фальсификацию Октябрьского РОВД о моих якобы противоправных действиях в день жертв Чернобыльской катастрофы 26.04.97 г. прошу приобщить к протоколу милиции следующее.

**Есть факт:** Могилёвский горисполком запретил все гражданские инициативы и акции в день 11-й годовщины Чернобыльской катастрофы, кроме официальных.

**Есть ещё один факт:** в этот трагический для беларусов день, переодетые в штатское опер. сотрудники УВД или КГБ выследили и сняли на пленку группу женщин и детей, численностью 50-60 человек, собравшихся за чертой города.

Из материалов сьёмки легко установить, что в группу входил узкий круг семей, близко знакомых, активистов Комитета "Дети Чернобыля", собравшихся в день их общей трагедии для посещения могил близких на городском кладбище (по специально проложенному для этого властями маршруту). В руках эти люди, в основном женщины и дети, несли хоругви, поминальные свечи и цветы, а также семейные реликвии-талисманы беларусов — бел-червоно-белые полотнища. Также легко установить, что к моему сожалению, лично меня в этой группе не было. Отметки в моем заграничном паспорте показывают что с 22.04.97 по 27.04.97 я находилась в Чехии.

**И есть еще один неоспоримый факт:** приняв к рассмотрению эти материалы, правосудие Могилёва вышло за правовое поле и вторглось в область подавления личных чувств и эмоций жителей. Правоохранительные органы согласились стать орудием подавления культурных и семейных традиций народа, его права на коллективную память, печаль и солидарность. Такое правосудие, на фоне разгула бандитизма и коррупции в городе, выглядит ещё более зловеще и аморально. В связи с вышеизложенным, все процессуальные права, предоставляемые мне Законами Беларуси, я считаю бессмысленными и отказываюсь в дальнейшем от возможности защиты на суде.

На протяжении шести лет своей деятельности в Комитете "Дети Чернобыля" я пыталась поддерживать в мучениках Чернобыля чувства, проявившиеся на их встрече 26.04.97 и потому горжусь предъявленным мне обвинением "организатора". В содеянном не раскаиваюсь и по мере сил буду продолжать свою деятельность независимо от решения суда и профилактических мер других инстанций.

**3 июня 1997 г. Могилёв.**
**Наталья Рослова**

# Якім быў Магілёў напярэдадні і ў пачатку Паўночнай вайны?

**(Працягваем публікацыю гістарычнага агляду І.Пушкіна)**

У канцы XVII — пачатку XVIII ст. ст. Магілёў быў даволі вялікім горадам. Ён меў больш за 10000 жыхароў, каля 3000 жылых дамоў і іншых будынкаў. Яго ўпрыгожвалі 4 праваслаўныя і 2 каталіцкія кляштары, 13 цэркваў і 2 касцёлы. З гледзішча эканамічнага ён — адзін з найбуйнейшых цэнтраў рамеснай вытворчасці і гандлю. Рамеснікі паводле прафесіяў гуртаваліся ў 21 цэх. Магілёў стаўся таксама цэнтрам асветы і мастацтва.

Вонкавы выгляд горада, ягонае багацце і ўзровень развіцця мастацтваў адзначалі чужаземныя падарожнікі. Расійскі стольнік П.Талстой у 1697 годзе ў падарожных нататках пісаў "...Горад Магілёў вялікі і пасады каля яго вялікія. У пасадах мноства садоў. А ўвесь ён шмат большы за Смаленск... На пасадзе шмат багатых мяшчанскіх дамоў мураваных і шмат добрай будовы драўлянай... Вуліцы брукаваныя дзікім каменем. Шмат гандлёвых радоў, а ў іх поўна ўсялякага тавару. Крамы у радах мураваныя".

Ішоў год за годам. Магілёў жыў сваім вірлівым жыццём. Але ў 1700 годзе распачалася Паўночная вайна. Да восені 1704 яна не закранала Беларусі, калі не браць пад увагу праход часткі шведскіх войскаў праз Гародню ў Польшчу і Саксонію.

У Вялікім княстве Літоўскім напрыканцы XVII ст. паўстала група на чале з Казімірам Сапегам, якая планавала пры дапамозе Швецыі аддзяліцца ад Польшчы, утварыўшы незалежную дзяржаву з манархічнай формай кіравання. У процівагу ёй офарміраваўся блок рэспубліканцаў (канфедэратаў).

19 лістапада 1700 года на Віленшчыне каля Алькенікаў сышліся войскі Сапегаў і канфедэратаў, у якой сапежынцы пацярпелі паражэнне.

Рэспубліканцы таксама вырашылі выкарыстаць зручны момант і аддзяліцца ад Польшчы, запрасіўшы на княскі пасад Аўгуста II, які абяцаў больш волі буйным магнатам і быў саюзнікам Пятра I у ягоным змаганні супраць Швецыі. Для Аўгуста II планавалася ўтварыць спадчыннае каралеўства. Са згоды магнатаў на Беларусь і Літву ўвайшлі саксонскія войскі. Гэта справакавала шведскага караля Карла XII і той рушыў свае войскі на Беларусь.

Яўная ваенная перавага Карла XII падштурхнула канфедэратаў падпісаць ваенны саюз з Расіяй. Пётр I паабяцаў ім вайсковую і грашовую дапамогу. Расійскія войскі ўвайшлі на Беларусь і Літву. Гэта былі значныя сілы — каля 60000 салдат, падзеленых паміж Меншыкавым і Агільві.

Усе гэтыя сваркі паміж магнатамі прывялі да таго, што лёс Беларусі, як і Літвы, і Польшчы, стаў залежаць ад Расіі і Швецыі, пра што вельмі яскрава сведчыць напісаны ў мастацкай форме "карнавал" ці "пасквіль", размешчаны ў Магілёўскай хроніцы Трафіма Раманавіча Сурты і Юры Трубніцкага. Прычым у хроніцы добра адзначана яшчэ адна прычына ўводу расійскіх войскаў на Беларусь і Літву — гэта каранацыя ў 1705 годзе С.Ляшчынскага, якога падтрымліваў Карл XII, і адрачэнне Аўгуста II, саюзніка Пятра I.

Падрыхтоўка на выпадак расійскай агрэсіі на Магілёўшчыне, дзе дзейнічалі паплечнікі Сапегі — Юрэвіч, Хмара, Більдзюкевіч, — пачалася загадзя. У горадзе дадаткова ўзмацнялі абарончыя збудаванні. У запісках ігумена Арэсты знаходзім: "1704 года, когда был собран собственный городской Могилевский гарнизон и расставлен как в самом городе по местам, так и по городским дальним воротам то... по воле и повелению магистратскому и контрагентов шоссовых деланы были деревянные стены, огражденные двумя заметами, а внутри между заметами, близко один от другого стоящими, землю насыпанные валы с воротами и башнями, от горы Гвоздовки по берегу Дебри до самого Днепра и в Днепре были побиты дубовые пали до половины Днепра против Дебренской деревянной стены, так же и с другой стороны Днепра от Луполова пали сим, такия укрепления учинены и на нижней стороне Днепра и в конце города за Папинскою частию".

## Як маскоўскія войскі абіралі магілёўцаў?

Работы па ўмацаванню Магілёва былі яшчэ не скончаныя, як на Беларусь уварваліся расійскія войскі разам з прыхільнікамі скінутага караля Аўгуста II. Спачатку яны рушылі ў раён Полацка, а ў хуткім часе быў заняты і Магілёў... "Год шчаслівы наступіўшы тысяча семсот шосты, — пісаў Трубніцкі, —пакінуў гораду нешчаслівую спадчыну, бо адбываліся ў гэтым годзе пераходы і пераезды розных войскаў, будаўніцтва мастоў праз Днепр, прысутнасць у горадзе знатных асоб, засыланне інспекцый з павета, зборшчыкаў падаткаў і дэпутатаў з-за чаго ў горадзе вялікая блытаніна".

Асабліва магілёўцы пакутавалі ад неабходнасці ўтрымліваць за свой кошт расійскае войска, якое знаходзілася ці ў горадзе, ці побач з ім. Са скрухай пісаў той жа летапісец: "... аднак жа мусім у гэты час даць на маскоўскае войска правіянт сенам і аўсом..."

"...гэтага ж году 1706. Мая чатырнаццатага дня быў заказаны гораду правіянт на дывізію генерала Баўра... Магістрат адкупіўся грашыма, даўшы хабар генералу... мая 15 дня... за гарадскі кошт банкет генералам Валконскаму і Гагарыну...

...У гэты ж час будавала Масква праз Днепр мост, на што давана з горада людзей і грошай. Было гэта будаўніцтва для горада вялікай мукай..."

У чэрвені, рыхтуючыся да сустрэчы ў горадзе Пятра I, ізноў далі грошы генералу Баўру, каб задобрыць яго. Пётр I застаўся вельмі задаволены сустрэчай. Але ж якіх выдаткаў гэта каштавала гараджанам! Усё больш занепадаў горад.

"Год 1707. У гэтым годзе пастаянна то ў Літву праз Магілёў, то з Літвы за Магілёў прагульваліся маскоўскія войскі, адсюль бранне коней на падводы, даванне правіянту, кармленне праезджых драгунаў і пяхотных салдатаў, пачынка мастоў..."

У жніўні гэтага года па загадзе генерала Рапніна вывезлі з Магілёва ўсе гарматы, вайсковы рыштунак і прыпасы ў Смаленск. Горад стаў практычна безабаронным і таму абіраўся то па загадзе Шарамецева, то Рамаданоўскага, то іншых. Скаргі, пасольствы да Пятра I былі безвыніковымі.




***Здравствуйте. Хорошо, что вы есть и дай Бог, чтобы таких газет стало больше. Рано или поздно у нас установится демократический порядок и на смену режиму придет молодежь, которая отстаивает сегодня свои права. Мы будем жить в цветущей республике, ибо свободу, как и веру в Бога, уничтожить нельзя. "Политику" вы и без меня хорошо подаете. А я хочу порадовать хозяек двумя новыми рецептами.***

***С уважением, Качуро Д.Л.***

### Салат майский

Отваренные свеклу и картофель, яйцо вкрутую, лук репчатый или зеленый нарезать кубиками. Добавить квашеной капусты и растительного масла. Перемешать.

### Колбаски по-могилевски

Небольшой кусок говядины отбить и поперчить. Подготовленный кусок шпига пропустить через мясорубку, добавить чеснок. На отбитый кусок говядины положить шпиг. Завернуть их в форме колбаски, вывалять в муке или сухарях и обжарить на растительном масле. Подать с картофелем или рисом.

# Германия-Беларусь: друзья говорят на одном языке



Могилёвская ассоциация "Круг друзей" подвела итоги одной из своих программ —

"Поддержка образования".

Три года гражданин Германии из г. Вайнгартен Х.Барт через посредство ассоциации награждает Призом могилёвских школьников за лучшее сочинение на немецком языке. В этом году победителями стали (на снимке) Светлана Бысеева, Иван Бойцов, Любовь Моисеенко, Елена Шаталова, Андрей Макаев, Елена Коршунова, Владимир Пугачёв, Ольга Кипреева вместе со своей учительницей Тамарой Ивановной Бойцовой, преподающей иностранные языки в СШ № 9.

Знание немецкого языка этими школьниками — ещё одна ниточка связей Беларусь-Германия. И прочная, какой бывает дружба между людьми, говорящими на одном языке.

**Собст. информ.**

# Прачытаў сам — перадай другому

***Шклоўская аб'яднаная апазіцыя, пра якую нам, акрамя назвы, больш нічога нявeдама, перыядычна друкуе саматужным чынам і распаўсюджвае ўлёткі па апратыўных фактах мясцовага жыцця. Па нашых звестках, яны надзвычай папулярныя ў раёне. ТЫДНЁВІК вырашыў пазнаёміць з апошнімі навінамі на радзіме прэзідэнта і сваіх чытачоў. Вось аб чым паведаміла шклаўчанам нядаўняя неафіцыйная газета мясцовай апазіцыі. Мы перадрукоўваем яе з захаваннем стылістыкі і арфаграфіі.***

"Наш знаменитый революционными обещаниями земляк объявил об очередной решительной борьбе с чиновниками так любящими участвовать в различного рода попойках на халяву. Как мы знаем — мафию и коррупцию он уже победил, теперь осталось победить неисправимых чиновников.

Впрочем, начнем со слова **ПРЕЗЕНТАЦИЯ** —для непосвященных — это когда после строительства дома хозяин устраивает хорошую выпивку для друзей и родных. Это вошло в обычай не только простого люда. Чиновники различного уровня также обмывают новостройки, создание фирм и прочие мероприятия. Только вот моют эти новостройки не за свой счет а за казенные деньги. Ничего не изменилось в поведении парткомноменклатуры которая сегодня приглашена Лукашенко на службу. Для них государственное — это мое. Теперь вопрос второй, что значит **КАЗЕННЫЙ СЧЕТ**. Это наши с вами деньги — часть налогов, часть зарплаты, отчисляемая на прибыль и часто деньги, отпущенные на строительство. И вот эта часть пропивается слугами народа.

В Шкловском районе за последние два года тихонько без особой помпы прошло аж семь презентаций. Обмывались широко разрекламированные новостройки подаренные батьком народу — Александрийская, Говядская, Орданская школы, Говядский ФАП, "батькова баня" и наконец всенародное свято "Купалье-96". Во что обошлись государству, читай народу, эти пьянки неизвестно. Все это скрыто за семью замками. Известно только, что генеральная пьянка с артистами на берегу Днепра после сввята Купалья обошлась более 100 млн. рублей. К сожалению на презентации нас с вами не приглашают, мы на халяву тоже не дураки бы дерябнуть.

Кто же участвует в этих попойках? Может быть строители, каменщики, плотники? Нет, от них, как и ранее, приглашают избранных, в основном это чиновничество различного ранга, которое без стыда и совести пропивает народные деньги — от министров, всяких там коммунальщиков и чернобыльцев до местной мелочи.

**Великий любитель презентаций и наш районный благодетель, желающий видимо надолго остаться в памяти народной, вице-скипер нижней палаты национального собрания Коноплев В.Н."**

## *Да нашых чытачоў!*

*Паважаныя сябры! Віншуем з наступіўшым летам, у якое зычым добра адпачыць і паправіць здароўе... Невялікі перапынак робіць для сябе і наша газета. Наступны нумар пабачыць свет 20-га чэрвеня. Не забудзьце пра нас — да сустрэчы праз два тыдні.*

*ТЫДНЁВІК*


Рэдактар Генадзь СУДНІК






Інфармацыйна-аналітычная газета, заснаваная Магілёўскай гарадской асацыяцыяй "КОЛА СЯБРОЎ".

*Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку за № 831.*

Газета выходзіць па пятніцах, пераважна на беларускай мове..



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030 г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.

ТЭЛЕФОНЫ: 31-04-15, 22-97-82

Газета набрана і надрукавана афсетным спосабам у Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М.Свярдлова. Зак. 11. Тыраж 2100 асобнікаў.